**Цана нумэру 50 кап.**

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя Вострa-Брамская. № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. З безработных за усю абвестку 2 рублі.

**Адміністрацыя:** Завальная № 7, «Белар. Кнігарня».

**ПАДПІСКА:** на 1 месяц—10 руб., на 3 месяцы—25 руб.

Год I. | Вільня, Субота, 26 ліпня 1919 г. | № 55.



## У справе земельнай рэформы.

Само жыцьце высунуло і палажыло ў фундамэнт нацыянальна-дзержаўнага беларускага будаўніцтва справу зямельнай рэформы.

Для шырокіх мас беларускага народу далей жыць без варштату да працы нельга. Гэтым тлумачыцца дзеля чаго зямельная справа для нас выходны пункт нашага будаўніцтва. Беларусы нацыя ратайская, хлебаробская. От-жэ гэта нацыя разьбітая і зьніштожаная сьветавой вайной, аграбленая бальшавізмам цяпер усе свае надзеі пакладае на шырокую зямельную рэформу, дамагаецца зямлі, каб мець магчымасьць сваю працу, сваё экономічнае жыцьцё, людзкае істнаваньне.

Што селянство мае да гэтага маральнае права, гэто сягоньня не падлегае найменшаму сумніву, з гэтым згодны усе беларускія палітычныя партыі.

Паміж беларускімі палітычнымі партыямі заходзіць толькі рожніца, што да способу правядзеньня гэтай рэформы. Тады, як левые партыі жадаюць для сялян зямлі бяз ніякай аплаты, то маладая наша хрысціянская дэмократыя, знаходзячаяся пад сільным уплывам клеру, хочэ узлажыць на сялян выкуп, а прынамні, „каб не пакрыўдзіць памешчыкаў“, з дзержаўных сум даць выплату памешчыкам паводле уродівай ацэнкі за зямлю. Гэтая апошняя праграма не апёрта на праўдзівых жыцьцёвых патрэбах наша селянства. Земля дадзеная за выкуп селянству забілабы ў зародку экономічнае разьвіцьце нашага селянства, а зямля, купленая дзержавай за аплату памешчыкам, ўкінулабы сялянскіе массы у вялікіе падаткі, упіхнулобы сялян у даўгі і ўрэшце паглыбілобы экономічную нашу руіну. Адкуль возьме і чым заплаціць наш сялянін выкупные капіталы за зямлю, пры яго цяперэшняй пасьляваеннай руіне?

Экономічнае палажэньне польскага сяляніна шмат лепшае, як беларускага, бо ваенны фронт там ня вынішчыў краю, дзеля гэтага зямельная рэформа якую праводзяць у Польшчы для нас не паказчык. Наш край мае свае асобные варункі і стасоўна да гэтых асобных варункаў павінна быць праведзена зямельная рэформа у нас. Яна павінна апірацца на істотных патрэбах нашага беларускага сялянства і варунках яго экономічнага быту.

Д. Спат.

◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆

## Сьвяткі міру.

Мір падпісалі і адсьвяткавалі.. „Сьветавая сталіца сьвяткуе збаўленьне чалавечэства“, — гэтак было напісано ў вялікай парыжскай газэце. Парыж у гэты дзень папраўдзе прадстаўляў незвычайнае відовішчэ. Даволі сказаць, што насяленьне места паводле аблічаньня «New Jork Herold», дасцігло васьмі мільёнаў душ. Вуліцы ледзь тоўпілі гэтую людзкую грамаду. Афіцыальная часць урочыстасьцей складалася галоўным чынам з велічавых паходаў войск нацый, які прыймалі учасьце ў змаганьн супроць Нямеччыны. Але самым расчуляючым, самым сымволічным для француза было паяўленьне Жофра, Пэтэна і Фоша, трох маршалоў, якіе стануць цяпер легендарнымі. Таўпа вітала іх, як прычынцоў пабеды, яны у сваіх прамовах усе заслугі аднасілі ў лік «пуалю»,—названьне салдата, якое гэтулкі кажэ розуму і пачуваньню французаў. Пасьля параду, пачалася неафіцыяльная часьць сьвяткаваньня, яшчэ болыш выдатная; у Парыжы у гэты дзень пастанавілі дамоў не разыходзіцца, а кавярням і рэстаранам пазволено было ўсю ноч на пралет. Гэты дзень у Францыі будзе памяцен доўга, гэткіе сьвяты часта ў гісторыі не здараюцца. Зрэшта не ў аднэй Францыі гэты дзень быў сьвятам. Яго спраўлялі і англійцы і амэрыканцы, але ня с тым энтузыазмам, як гэто умеюць зрабіць французы.

В. О.

# Адраджэньне Чэхіі.

Чэская рэвалюцыя прайшла дужа гладка і бяз крыві. Калі пахіснулася аўстрыйская уласьць — чэскія павадыры паднялі паўстаньне. Нацыянальная гвардзія зложылася з многачысленага сакольства. Яна ўзяла на сябе абарону парадку, выдаліўшы аўстрыйскую паліцыю, бяз супраціўленьня з боку апошняй. Чэхія пачула сябе свабоднай, і аўстрыйская уласьць, паслала у Прагу свайго прэдстаўніка. Чэх узрадаваўся, самазакаханымі вачыма глядзеў на сваё нацыянальнае адраджэньне і у коаліцыйным міністэрстве прыняўся за урадавае будаўніцтва. Разам з гэтым былі скарыстаны сувязі і стараньня Антанты, якая пасьпяшыла прыйсьці на падмогу ў справе харчаваньня народу, абабранаго аўстрыйскімі рэквізыцыямі. Пасьля падпісаньня перамірыя галодныя немцы са скрэгатам зубоў павінны былі прапусьціць на Лабе баржы з ёмінай для Чэхіі. Цяпер Прага самая танная места ўва ўсей цэнтральнай Эўропе. У многачысьленых заваленых «закускамі» (цестачкамі) кавярнях, чэская інтэлігэнцыя ў «крэзе» (нацыянальная чэская вопратка) за аркестрам пяе свае нацыянальныя песьні. У канцы мая да Чэхаславацкай рэспублікі сваёй ахвотай прылучылася «Карпатцкая Русь» на правох самай свабоднай фэдэрацыі: вельмі папулярны у Чэхіі прэзыдэнт Массарык гарантаваў карпатарусам поўную волю ураду, права гаварыць у школах і урадавых установах на сваёй мове (карпатаруская мова вельмі падобна да нашай беларускай), а так сама права нацыянальнаму сабранью карпатцкай Русі аддзяліцца ад Чэхіі і ўступіць у фэдэрацыйную сувязь з кім яны пажадаюць.

На урачыстых сьвяткаваньнях, якія былі па прычыне прылучэньня карпацкай Русі да Чэхіі радастные чэхі гаварылі: Цяпер мы будзям называцца «Чэска - славянска - рускіе штаты».

У рэзультаце атрымалася гаспадарства з тэрыторыяй 3/5 этнаграфічнай Беларусі і жыхарамі ў 13 мільёнаў.

Аднак ідылія чэхаў істнавала нядоўга.—На Вялік - дзень прыехалі з Францыі 150 аэрапланаў,—падарунак замест чырвонага яйка, а праз два тыдні хаўруснікі заправанавалі чэхам супольна з румынамі спыніць вэнгерскую савецкую рэспубліку. Чэхі хаця зусім ня былі прыгатаваны да вайны (іх ваенныя заводы, ў гэтым ліку і добра ведамы сваімі 85 сантымэтравымі марцірамі завод Шнэда, здаецца былі па праэкту міністраў сацыялістаў перароблены на вырабы мірнага часу) згодзіліся ваяваць. Зьнячэўку напаўшы на вэнграў яны з удачай прасоўваліся і падайшлі да Будапэшту вёрстаў на 30, дзе Антанта загадала застанавіцца і пачала перагаворы з Бэла-Кунам. Перагаворы зацягнуліся. Тым часам вэнгры прывялі ў парадак сваю армію, забраўшы амуніцыю ад інтэрнірованай арміі генерала Макэнзена, і спыніўшы перагаворы напалі на чэхаў, выгналі іх з сваёй тэрыторыі і занялі Славакію, апошняя аддзялілася (часова) ад Чэхіі і аднавілі сваю Савецкую Рэспубліку. У рэзультаце перагавораў Антанты з вэнграмі граніцы Чэхаславакіі былі установлены. Няўдачы на фронце унясьлі раздваеньня ў чэскае грамадзянство. З аднаго боку вінавацілі міністраў сацыялістаў, што яны пасьпяшылі з дэмабілізацыяй (некаторыя відзелі у гэтым здраду) з другога боку работнікі ня здаволеныя ваеннай экспэдыцыяй пачалі трэбаваць каб станела мануфактура.

Дэманстрацыі работнікаў істнавалі 4 дні. Спачатку сабіраліся мітынгі, пасьля выйшлі дэманстранты з шубяніцамі, на якіх была написана «Сьмерць кэтэсам» (сьпекулянтам). На трэці дзень у паходзе зьявіліся чырвоныя штандары з намалёванымі рысункамі. Грамада забраўшыся ў магазыны, прадавала крамніну па цэнах мірнага часу. Пасьля поўдня войскі спынілі тарголю.

У палітычных адносінах Прага ў цяперашні час дужа важны цэнтр.

Тутака ёсьць шмат рожных місій Антанты, а таксама ўцекачоў з Расеі. Сярод чэхаў вядзецца вялікая агітацыя.

І шырокія кругі грамадзян, з страху нямецкага рэваншу, хацелі бы бачыць сільную Расію, як пэўную апору і думаюць, што «ядзіная, недзялімая» будзе самай вернай апорай славянства. Энэргічная праца, глаўным чынам украінскай місіі, патроху расеівае гэтыя думкі. Рукавадячыя палітыкай, а таксама фінансавыя кругі пачынаюць разумець, што эканамічна яны больш заінтэрэсованы Украінай і другімі дзяржавамі, паўстаўшымі на тэрыторыі Расеі, чым цэнтральнай Расеяй.

З другога баку фэдэрацыйная Расея ня будзе дарма траціць сілы на нацыянальную барацьбу.

Некаторыя думаюць, што можа Чэхіі прыйдзецца прылучыцца да Рускай фэдэрацыі, бо прамысловай Чэхіі патрэбен ры

---

А. ГАРЭШКІ.

# РЭХА.*)

(Пераклад з польскага).

Ня гневайцеся, будзьце ласкавы, ён ад старасьці зусім здурнеў.

Раз Пранук спрачаўся з ім. „А чаму, кажа, цябе, дзедку, ня зьелі?“

— „Елі, галубок, кажа, елі, толькі я гэткі цьвёрды быў, што скуру і косьці заставіць мусілі.“

І *мой*, ня жарт, як часам гневаецца на яго „Нашто ты, бацька, кажа, гаворыш гэткае.“ «Трэба, сынок, кажа, трэба; няхай загадзя ведаюць, кто іх есьці будзе...

Ля сьцяны хаты, на прызьбе, складзенай з буйнога, цьвёрда ўбітага пяску і паложанай на ім паўкруглай калоды дрэва, убачыла седзячага старога. Выглядаў ён на гадоў 70, але ні друзлым, ні бязсільным ня быў. Высокі, шыракаплечы, худы, у грубай і досіць бруднай кашулі, катарая была на шыі настолькі адвернена, што паказвала значную частку яго грудзей, цёмных, як бронза, касьцістых, паросшых даўгімі валасамі. Вялізарные, плоскія яго ногі, вышэй чымся да костак аголеныя, пакрытыя цёмным пылам, здаваліся ўросшымі ў жоўтазялёную зямлю панадворка. Апіраўся локцямі аб калені, рукі сплёў, і падаўшыся палавінаю цела наперад, так выцягаваў худую, цёмную, жылістую шыю, быццам зумысьля галаву сваю дзяржаў пад цёплымі мігатліва-ласкавымі косамі сонца. Галава гэтая была вялікая, угары сьплюшчаная і бліз што зусім без валасоў, каторыя толькі з канца чэрапу ад аднаго віска да другога, робілі паўкруглы вянец, сьнягавымі, як срэбра, бліскучымі каслаўкамі (пасмамі) спускаліся на выступаючыя косткі патыліцы і на каўнер грубой кашулі. Твар яго худы і даўгі, з запаўшымі шчокамі зарос валасамі, падобнымі да цьвёрдай, жаўтаватай шчоткі. Сярод гэтага заросту вусны яго былі блізка што непрыкметнымі, а над глыбака пасаджанымі вачмі зьвісалі з брывей даўгія, белыя аласы. Лоб, узад уцякаючы, але пашыраны лысінай, здаваўся вялікім і як поле, па катораму прайшла барана, пакрыт быў, удаўжкі, ушыркі і ўкосна, тоненькімі, як валасок, зморшчынкамі. Павекі меў заплюснутыя: думаў, ці спаў. Быў падобны да струхлелага дубу, яшчэ маючага сілы, з верхам многа разоў ветрам ламаным, з разьвеяным лісьцём, але з пнем каторы яшчэ крепка дзяржаўся ў зямлі. Вялікія яго ступні былі падобны да падставы цяжкога Колосса, а галава да галавы Сфінкса, зьмяшчаюччай у сабе загадку даўнай векавой, для яго толькі незабытай мінуўшчыны.

Ледзь толькі мы ўвайшлі ў вароты панадворку, Пранук вырваўся з абойма маткі і сваймі, як у качкі, валюхаючымі крокамі падбег да дзеда. Аб сваім страху забыўся і сьмяяўся так голасна, як перад тым плакаў. З радасным і блізка што дзікім піскам прыпаў ён да дзеда, каторы павекі падняў, расшчапіў пацыху свае вялікія, проста як зямля чорныя, вузлаватыя рукі, і бяз усьмеху, бяз слова, не парушыўшы хоць злегка тварам, абняў дзіця. Выглядала яно у гэтую мінуту, як крохкая цацка ў руках волата. Выпраставаўся толькі крыху і адным плячом памог зьмясьціцца хлапцу на сваіх голых і валасатых грудзёх, далонью другой рукі пакрыў блізка што усе яго плечы. Матка засьмяяўшыся гэдак шырока, што з-за мясістых і чырвоных вуснаў паказаўся радня толькі зубоў белых як пэрлы, але і дёсны, чырвоныя як кроў, запрашала мяне, каб я адпачынула на прызьбе. Але стары, зірнуўшы на мяне поглядам, у каторым, падобна да дзьвюх іскраў, пралятаючых у зарасьлях, бліснулі на мяне з-пад зьвісаючых брывей вочы, не сказаў а нічога, галавой ня кіўнуў, целам не парушыў і толькі ніжэй да ўнука галаву пахіліў. Магло здацца, што вось зараз, зараз, гэтай маленькай галоўцы, у круглай чырвонай шапцы, пачне расказаваць аб страхах, каторыя ходзяць у чорных вопратках.

Ой, дзедку, дзедку! па якіх цьвёрдых і камяністых дарогах хадзілі тваелногі?

Якія гэта кусьлівыя і войстрыя зубы парабілі барозны на тваім лобе? Які, дасюль яшчэ не астыўшы боль і гнеў напаўняе твае шырокія, бранзовыя грудзі.

* *
*

У той самы вечар, змрокам, я зьбегла да палавіны высокага берага Нёмна, з-пад срэбна лістага ясакару кінула лясным заклятым галасом выклік: міласьць! З глыбі цёмнага лесу срэбраны, працяглівы голас адказаў: прош—ласьць!

Што гэта было? памылка ваабражэньня, ці адгалосак уласных дум?

Яшчэ раз выразна паўтарыла чарадзейные слова. Лясны голас, сперша срэбраны і выразны, а потым аддаляючыся, заміраючы, усё больш разьвеяваючыся тры разы мне адказаў: прошласьць! прошласьць! прошласьць!

Ах смутнае рэха!

Пераклад **Л. Чарняўскай.**

---

*) Гл. № 54.

нак для збыту сваіх прадуктаў, а ня маючы карысьці, якую даець фэдэрацыя, чэхі ня змогуць вытрымаць канкурэнцыі на адным даступным для іх—рускім рынку, з такімі высокапрамысловымі дзяржавамі, як Англія, Амэрыка і Нямеччына. А калі ўваходзіць у фэдэрацыю, то лепш з фэдэрацыйнай Расеяй.

У дэбатаваных у цяперашні мамэнт пытаньнях аб чэска-польскіх граніцах, чэхі вельмі заінтэрысованы, каб ім дастаўся тэхнічна горнапрамысловы раіон, вельмі багаты, як падземным багацьцём, так і добрым грунтам.

Насяленьне ў Тэшынскім раіоне мешанае: тут вы пачуеце мову чэскую, польскую, нямецкую, жыдоўскую, русінскую, вэнгерскую. Ні чэхі, ні палякі аб'ектыўнай бальшасьці не маюць. Калі ў гэтым раіоне будзе дапушчэн плебесцыт, то рэзультат галасаваньня ў значнай меры будзе залежаць ад таго, з кім пайдуць меншасьці. Мяркуючы з тых гутарак, якія мне здарылося чуць, то меншасьць, напр. нямецкая, больш склонна галасовäць, за чэхаў, як за палякоў. Тутэйшыя немцы пры гэтым таксама нянавідзяць як чэхаў, так і палякоў, але расчотлівага чэха яны лічаць больш пажаданым гаспадарам і больш небаспечным канкурэнтам. З другой стараны немцы хацелі-бы пасварыць чэхоў з палякамі, вытварыўшы апошнім новага ворага, каб пры магчымых супярэчках і пры зручнасьці забраць тэтчын па мірнаму трактату.

У апошнія часы ў Празе аткрылася Беларуская Грамада, прадстаўніком якой выбран стары эмігрант, супрацоўнік «Нашай Нівы» Вершынін, сэкрэтаром—інтэрніраваны народны вучыцель Скварада. Чэскае грамадзянство вельмі цікавіцца беларусамі.

**Propiqvus.**

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## Весткі Польскага Генэральнага Штабу.

*Ад 22 ліпня.*

**Літоўска-Беларускі фронт.**

Сіла бальшавіцкіх аттак у раіоні Радашковіч учора зьменшылася. Мейсцовые атакі бальшавікоў, што вяліся з вялікаў заўзятасьцьцю былі адбіты ў штыкавай бітве з вялікімі для непрыяцеля стратамі.

Контр-атака нашых часьцей, што б'юцца на паўднёвы захад каля Радашковічаў, адкінула непрыяцеля за лінію Татары—Пухачы.

На поудзень—захад ад Вілейкі адбіты бальшавіцкіе атакі.

На палескам і галіцыйска-валынскім фронтах бяз перамен.

**Сойм аб Сувалшчыне.**

ВАРШАВА. Кс. Лютаслаўскі зрабіу 22 ліпня ў Сойм прапазыцыю, прызываючую урад зараз жа акупаваць аружнай сілай Сувалшчыну, пратэставаць перад мірный канфэрэнцыяй проціў зьдзекаў якіе робіцца там і зьвярнуцца да літоўцаў з дружаскай але энергічнай заявай, што трэба лічыцца з Польшчай і што палякі на не літоўскую тэрыторыю нікога ня пусьцяць.

Дэп. Ратай уносіць папраўку, каб выпусьціць словы «аружнай сілай». Апрача таго ў трэцім пункце зьмянілі тэкст: «Прапануем ураду дружаска але цвёрда патрабаваць ад літоўцаў адмовіцца ад заняцьця сілай не літоўскіх мейсцаў. Сойм аднагалосна прыймае прапазыцыю і папраўку.

**Лёс Вільгельма.**

РЫМ, 22 ліпня. Італьянская газэта «Popolo d' Italia» піша, што Вільгельм II атрымае права пераехаць у Нямеччыну. Ен будзе жыць у адным са сваіх паместьцяў і будзе знаходзіцца пад даглядам урадавых агентаў.

**Японія адмаўляецца ад Шантунга.**

СЭН-ЖЭРМЭН. «Matin» атрымаў тэлеграму з Нью-Іорку, што Японія хочэ падаць ноту, у якой яна адмовіцца ад Шантунга, за выняткам зялезнадарожных канцэсіяў і некаторых калоніяў па-за крэпасным раіонам. Калі гэта запраўды адбудзецца, кітайскіе дэлегаты падпішуць мірную умову.

**Рускія прэтэнзіі.**

Кар. «Kur. Pог» піша з Парыжу, што істнуючыя тамака рускія палітыкі і дыплёматы, (Львоў, Маклакоў і Сазонаў) падалі Радзе пяцёх меморыял аб далі турэцкай дзержавы. У мэморыяле адзначана, што Дарданэлы павінны быць дадзяны Расеі калі ня ў цэлку, то хаця пад кіраўніцтвам Лігі Народаў, але спаўняючае кіраўніцтва павінна быць даверана Расеі. Дзеля таго, што Расеі цяжка будзе запраўляць Канстанцінопалям, гэтае место трэба зрабіць міжнародным тады бы Расея так сама уступіла бы ў лік міжнароднай лігі хаця гэто яе і наражало-б на труднасьці Што датычыць Арменіі, Ліга павінна мець маральны пратэктарат, а фактычны Расея. Вышэй паказаныя асобы так сама вельмі інтэрэсуюцца лёсам сьвятага гробу ў Палестыне з прычыны вялікай рэлігійнасьці рускага народу.

**Прадстаўнік штабу Эстонскай рэспублікі ў Коўне.**

У Коўну прыехоў прадстаўнік эстонскай рэспублікі Юнкур, які паведаміў: „Ніякіх непаразуменьняў і вайны між Эстоніяй і Латвіяй не было. Эстонскіе войскі вядуць барацьбу супольна з Латышскімі войскамі проціў бальшавікоў і баронаў—абшарнікаў. Ідучы да Рыгі эстонцы рабілі гэто з ведама латвійскага ураду ў абарону проціў ландвэра баронаў.

**Чэхі паграажаюць.**

„Мараўскі Чэскі Дзеньнік" піша аб інспэкцыі чэскага міністра вайны Клофчака на Цешынскай Сілезіі.

Міністр адбыў смотр у Карвіне і ў прамове да салдатаў сказаў, што вайна яшчэ ня скончана. Ен ня хочэ вайны, але калі ён будзе змушаны ўступіць у барацьбу, то запэўна пабядзіць, бо чэская армія адзначаецца сваёй адвагай.

Пасьля міністр прыняў дэпутацыю нацыянальную ў Багуміне. Кіраўнік дэпутацыі Бура, прасіў каб дзяржава ня забылася аб тых чэхах, што знаходзяцца пад польскай уласьцьцю. У адказ міністр сказаў, што доля гэтых жыхароў найбольш клапаціць урад. Цяпер, калі у Кракаве пачаліся чэска-польскія нарады, разрашэньне пытаньня зусім блізка. Міністр выказаў жаданьне, каб рашэньне прайшло спакойна, але ня іх віна будзе калі станецца інакш. І калі чэскае войска будзе змушана да вайны яно дакажа што патрапіць пабядзіць.

**Вайна ў Марокко.**

ПАРЫЖ. 21 ліпня. З Танжэра тэлеграфуюць, што мараканцы на чале з добра ведамым Райсулі перайшлі гішпанскую мяжу і страляюць з гармат ў вакруг Танжэра. Яны знаходзяцца ў 40 кіламэтрах ад места. У Танжэры добра чуваць кананаду. У гішпанцаў шмат раняных.

# З газэт.

Па поваду устаноўленьня ў Вільне ваеннай цэнзуры «Dziennik Wilenski», клерыкальна-нацыяналістычны польскі орган, піша:

«Хоць мы і не прыпісуем сабе якога небудзь ўплыву на вышэй пісаную пастанову, усё-ж такі з здаволеньнем можэм выказаць надзею, што гэтым спосабам можа ваенная ўласьці удаецца выявіць тое, што мы ў стацьці «Czuwaj» (пільнуйся) выставілі як першую аснову мамэнту: забрытаньне оргіі прэсы, якая ў бязстыдны і безпрыкладны спосаб разлілася на нашым віленскім бруку».

# У ВІЛЬНІ.

**У Бел. Нацыянальным Камітэце.**

На ўчэрашнім заседаньні Бел. Нацыянальнага Камітэту, між іншымі справамі, была пастаўлена на чарод справа выбараў у местовую Управу. Па ўсестаронным абмяркаваньню гэтай справы, прадстаўнік соц. рэволюц. партыі заявіў, што партыя ня будзе прыймаць учасьця ў выбарах на той аснове, што пад

чужой окупацыей німа гарантый на свабодные выбары і дзяля гэтаго на час окупацыі органы праўленьня павінны быць утворэны з нацыянальных прэдстаўніцтв. Прэдстаўнік фракцыіі незалежных заявіў таксама, што незалежные ня прыймуць учасьцьця ў выбарах, бо лічаць немагчымым у гэты час правясьці правільные выбары, ў той час, калі лепшыя партыйные беларускіе сілы знаходзяцца пад арэштам, калі на прэсу наложэна цэнзорская абрэць і сыпяцца штрафы, як ў той самы час сьвірэпствуе на поўнай свабодзе самая чорная польская рэакцыя.

Рэшта Камітэт галасаваньнем 7 галасоў проці 3 пастанавіў падать свой спісак у магістрат і прыняць учасьцьце ў выбарах, калі іншые нацыі будуць уіх прыймаць учасьце і пры варунку, што окупацыйные ўласці дадуць роўные варункі ўсім нацыям да перадвыбарнай агітацыі.

Камітэт выбраў Камісію, якая павінна заняцца справамі выбараў. У Камісію выбраны 4 асобы.

---

Начальнік Віленскага Округу адміністрацыйна пакараў выдавецтво «Беларуская Думка» штрафам у 1000 мр. за непавядомленьне ўласцей аб перамене выдаўца і рэдактара.

№ 5 беларускай газэты «Родны Край» выдаванай ў Горадне, сканфіскаваны, выдавецтво спынено, а рэдактары Грыб і Чэрапук вінаваца па 129 стацьці. Рэдактар Грыб арэштаваны ў Вільні і сядзіць у Лукішскай турме.

№ 48 „Беларускай Думкі" сконфіскаваны.

---

## ЗАГАД

### № 14.

**Аб рэгістрацыі школ.**

Усе школы істнуючыя ў Вільні павінны даць да 1 жніўня г. г. у Упраўленьне Віленскага Вокруга (Юр'яўскі пр. 13 пакой 14 ад 11 да 1 да поўдня) сьледуючыя ведамасьці: 1) Назову школы і яе адрэс. 2) Імя і прозьвішча загадчыка. 3) Копія пазваленьня, водле якога школа была адчыняна. 4) Мова, на якой выкладываюцца лекцыі. 5) Заданьня школы, праграма і расклад лекцыяў. 6) Лік вучняў ва ўсіх клясах 7) Колькасьць вучыцельскага пэрсоналу, адміністрацыўнага і службы. 8) Бюджэт школы на час ад 1 жніўня 1919 г. па 1 студня 1920 г. трэба паказаць усе выплаты: пэнсія вучыцялём, за будынак і г. д. 9) На якія грошы істнуець школа, капіталы школы. У якім будынку знаходзіцца школа. Копія пазваленьня на заняцьце скарбовага будынку пад школу; колькі плаціцца за прыватную кватэру. 11) Колькасьць дроў, патрэбных на зіму з адзначэньням ліку пячэй ў школі.

Камісар Віленскага Вокруга
**Н. Недзялкоўскі.**

Вільня, 24 ліпня 1919 года.

## Пачтовая скрынка.

**Ксяндзу К. Стэп. Закопанае, Галічына.** Газэту Вам штодзень высылаем па почце. Пытайцеся на почце.

**Адміністрацыі тыднёвіка** «Wyzwolenie» Газэту штодзень высылаем па почце. Вымагайце каб почта дастаўляла Вам «Беларускую Думку», гэтым можэ памажэце і нам ў прыгодзе, бо усе нашы падпішчыкі чамусь сыстэматычна... газэты не дастаюць з почты.

---

**Рэдактар і выдавец Э. Падгайскі.**



---

**БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ КАМІТЭТ**

паведамляе родных і знаёмых арэштаваных беларусаў аб арганізаваньні пры Камітэце (Вострабрамская, № 9) Камісіі дзеля падачы юрыдычнай помачы.

Камісія прыймае з 12 — 2 гадз. у дзень штодзенна, а ў панядзелкі і сьвяты з 1—2 г. дня.

## БЕЛАРУСЫ!

Усіх, хто мае лішнія беларускія, альбо іншыя кніжкі, просім ахвяраваць іх Беларускай Вайеннай Арганизацыі дзеля стварэньня вайсковай бібліатэкі. Кнігі прыймаюць у Рэдакцыі „Беларуская Думка",
— *Вострабрамская 9,* —

*Хто прыезджае у Вільню і мае хоць калiуца часу пахваліцца сваімі мястовымі, месьцячковымі ці вясковымі навінамі: хто хоча сам даведацца аб патрэбных яму і грамадзе беларускіх справах і навінах ці дастаць беларускую літэратуру,—няхай ен будзе ласкау не абмінуць сваю беларускую Рэдакцыю.*

## Расьпісаньне паяздоу.

Цяпер на віленскім дарожным вузле ходзяць паязды водле ніжэйсьледуючага расьпісаньня:

*У кірунку Вільня—Ліда.*

№ 507 выходзіць з Вільні а 6 г. нараніцы.
№ 521 „ „ „ „ 4 „ папаўдні.

*У кірунку Ліда—Вільня.*

№ 522 прыход. да Вільні а 10 г. 50 м. нараніцы
№ 508 „ „ „ „ 4 „ — папаўдні.

*У кірунку Вльня—Смаргонь.*

№ 754 прыходзіць да Вільні а 12 г. 8 м. у начы.

*У кірунку Вільня—Н.-Сьвенцяны.*

№ 951 выходзіць з Вільні а 2 г. папаўдні
№ 952 прыходзе ў Вільню а 6 „ у вечары

*У кірунку Вільня—Вака.*

№ 601 выходзіць з Вільні а 7 г. нараніцы.
№ 605 „ „ „ „ 2 „ напаўдні.
№ 607 „ „ „ „ 7 „ 30 м. увеч.

*У кірунку Вака—Вільня.*

№ 604 прыходзе у Вільню а 11 г. — нараніцы.
№ 606 „ „ „ „ 3 „ 10 м. папаўд.
№ 608 „ „ „ „ 3 „ 40 „ увечар.

Ад 17 чэрвеня ходзіць адзін поезд паміж Вільняй і Горадняй цераз Ваку, дзе трэба перасядаць з прычыны папсаваньня мосту.

Поезд гэты адходзіць з Вільны а 7 г. нараніцы.

---



Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Мала-Стэфанаўская, 23

Пазволено ваеннаю цэнзураю.